# Тыднёвік Магілёўскі




№ 33 (97) 25-31 жніўня 2000 г. Кошт 50 руб.


## На дне Баранцава мора побач з субмарынай ляжыць расейская Ўлада





Фота IREX

*...Спадзяемся, што нашыя чытачы, таксама як заснавальнік і рэдакцыя "ТМ", падзяляюць горкія пачуцьці 118 сем'яў з прычыны гібелі экіпажу расейскай субмарыны "Курск".*

*Разам зь ёй, як гэта адзначаюць у гэтыя дні ўсе сумленныя сродкі масавай інфармацыі сьвету, патануў і давер людзей да самой інстытуцыі сёньняшняй расейскай Улады, заснаванай на гэбэшных традыцыях абыякавасьці да чалавечага жыцьця. Усё аказалася хлусьнёй: кроніка трагедыі, тлумачэньні яе прычынаў, захады дзеля выратаваньня.*

*Як у кроплі вады гэтая сытуацыя выявіла й іншае фарысэйства, небясьпечнае і для многіх нечаканае – Расея не ідзе да адкрытасьці і дэмакратыі, якія толькі й ёсьць сапраўднымі каштоўнасьцямі цывілізацыі. Яна вяртаецца назад. Яна працягвае жыць, апошнім часам найбольш адвочна, у спадзяваньні на тое, што вялікасьць краіны забясьпечваецца маштабам яе ваенных ўзбраеньняў, неадэкватнай сакрэтнасьцю, сяброўствам з краінамі, якія ад злосьці, зайздрасьці і некампэтэнтнасьці сваіх правадыроў і рэжымаў супрацьстаяць дэмакратычнаму сьвету й ненавідзяць найбольш разьвітыя грамадзтвы.*

*Такі шлях, такі курс, да якога, на жаль, упарта імкнецца далучыцца ў абдымках Расеі й нашая дзяржава, можа прывесьці толькі туды ж, дзе пакоіцца атамная субмарына, нягледзячы на ейную нібыта дасканаласьць і непатапляльнасьць...*

*Непатапляльнай застаецца Ўлада.*

ПРАЦЯГ У СПРАВЕ Дз. АБАДОЎСКАГА

## Ліст удзячнасьці

Сяргей Абадоўскі распаўсюдзіў Ліст удзячнасьці ў сувязі з вяртаньнем справы свайго сына Дзьмітрыя на новае слуханьне. У лісьце, адрасаваным праваабарончым арганізацыям краіны і замежжа, а таксама сродкам масавай інфармацыі, С.Абадоўскі нагадвае пра ўладны наступ на ягоную сям'ю, які доўжыцца вось ужо 4-ты год.

Адлік Сяргей вядзе ад першага судовага пакараньня па крымінальнай справе свайго старэйшага сына Дзьмітрыя. Хутка надыйшла чарга перасьледу сярэдняга – Івана (Яся), які вымушаны быў застацца жыць у Польшчы, атрымаўшы там палітычны прытулак. Летась была спроба прыцягнуць да адказнасьці малодшага сына – Аляксандра.

У лісьце выказваецца шчырая падзяка за маральную, інфармацыйную і прававую падтрымку ў гэты цяжкі для сям'і час. Сярод тых, каму адрасаваныя цёплыя словы ўдзячнасьці, названы і "Тыднёвік Магілёўскі".

## Запрошаныя свае й міжнародныя наглядальнікі

Сёньня ў магілёўскім Ленінскім раённым судзе павінна пачацца першае паседжаньне аднаўленага суда ў справе Дзьмітрыя Абадоўскага. Тым самым судом (цяперашні будзе ў іншым складзе) сын вядомай грамадзкай асобы Сяргея Абадоўскага быў асуджаны напачатку лета да 6-ці гадоў пазбаўленьня волі за інкрымінаваныя яму злычынствы. Аднак многія наглядальнікі, што мелі магчымасьць знаёміцца з ходам справы (пры тым, што суд быў абвешчаны зачыненым), адзначалі шмат якія парушэньні ў ходзе сьледства, якія суд аднак не пажадаў прааналізаваць і ўзважыць. Дзьмітры Абадоўскі трывала адмаўляе сваю віноватасьць, за час знаходжаньня за кратамі двойчы трымаў галадоўку, што прынесла ўладзе дадатковыя непрыемнасьці ў зносінах з адпаведнымі эўрапейскімі структурамі. На касацыйную скаргу абаронцаў Дз.Абадоўскага калегія абласнога суда адрэагавала вяртаньнем справы на новае слуханьне.

На пачатку тыдня Сяргей Абадоўскі, які ёсьць афіцыйным юрыдычным прадстаўніком падсьледнага і падсуднага сына, правёў у Менску прэсавую канфэрэнцыю, на якой папярэдзіў беларускую і міжнародную грамадзкасьць, што ў Магілёве аднаўляецца суд, за справядлівы вынік якога нельга паручыцца. Пра гэта ўскосна сьведчыць тое, што нават пасьля таго, як сумненьні ў справе выказаў абласны суд, і як з просьбай пра замену ўтрыманьня хлопца за кратамі, дзе ён знаходзіцца год, на падпіску аб нявыездзе зьвярнуліся некаторыя грамадзкія арганізацыі і асобы, – нічога ў лёсе Дзьмітрыя не зьмянілася. Бацька запрасіў у Магілёў журналістаў і праваабаронцаў, замежных прадстаўнікоў ад гуманітарных арганізацыяў для нагляду за паўторным разглядам справы. Аднак пакуль невядома, ці змогуць яны гэта зрабіць, бо суд зноў жа можа абвесьціць закрытае слуханьне.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па прававых пытаньнях***





РЭХА СТРЭЛАЎ У БАБРУЙСКУ

## "А ўсё ж, навошта вам гэты сьцяг?.."

У Бабруйску пасьля стрэлаў невядомых людзей, разлялаваных бел-чырвона-белым сьцягам над моладзевым летнікам, што месьціўся на адной з паўвыспаў Бярэзіны *(чытай "ТМ" №31 ад 11-га жніўня)*, распачалося расьсьледваньне. Узбуджаная крымінальная справа, якую вядзе мясцовая міліцыя. У першыя дні сьледства здавалася, што яно сапраўды шукае тых злачынцаў, якія дазволілі сабе сярод белага дня і без усялякіх прычынаў скарыстацца зброяй, калі толькі цудам скончылася каля вёскі Даманова бяз ахвяраў.

Аднак апошнім часам сытуацыя рэзка зьмянілася. Цяпер моладзь дапытваюць не пра абставіны страляніны, а пра абставіны ўзьнікненьня летніку і прычынаў, па якіх маладыя людзі праяўляюць павагу да гістарычнага сьцягу краіны. Менавіта пра гэта распытвалі на допыце Віталя Красьнеўскага і ягонага непаўналетняга брата. Старшы сьледчы па асабліва важных справах маёр Нікалайчык настойліва раіў хлопцам прызнацца ў тым, хто "уцягнуў іх у палітыку". Ён прачытаў юнакам строгую "мараль" за тое, што яны, у той час, як увесь беларускі народ... і г.д., і г.д., займаюцца ганьбаваньнем міліцыі і небясьпечнымі гульнямі зь незразумелым сьцягам. Дайшло да таго, што маёр папярэдзіў Віталя аб магчымых праблемах, якія ў хлопца могуць паўстаць у тэхнікуме. Ды й хадзіць вечарамі па нашых вуліцах, туманна зазначыў сьледчы, таксама небясьпечна.

Тым часам кіраўнік мясцовага аддзяленьня Беларускага Хельсінскага Камітэта Яўген Чапурышкін паведаміў, што міліцыі вядомыя прозьвішчы так званых паляўнічых, якія напалі 5 жніўня на моладзевы летнік.

Па апошніх зьвестках у гэтай справе, матэрыялы сьледства запрасіла абласная пракуратура.

***Тацяна КОПЕЦ***

**ВЫБАРЫ – 2000. КАНЦЭПЦЫЯ. ЗЬМЕСТ. ПРАКТЫКА**

# “Крупные инициативы” як чарговая прапаганда

***Афіцыйная беларуская прэса шырока рэклямуе пасланьне А.Лукашэнкі да генэральнага сакратара Савету ЭўраЗьвязу Гаўера Саляны й дзейнага старшыні АБСЭ – міністра замежных справаў Аўстрыі Бэніты Фэрэра-Вальднэр. Пасланьне гэтае быццам бы адлюстроўвае імкненьне Лукашэнкі зрабіць сур'ёзныя крокі насустрач патрабаваньням Эўропы й беларускай апазыцыі адносна стварэньня ўмоваў для правядзеньня цывілізаваных і дэмакратычных выбараў у парлямэнт. Аднак аналіз гэтага дакумэнту паказвае, што ўлада чарговым разам ідзе на падман.***


15 октября — в Палату пре
Национально
О назначении выборов
Палату представителей Национал
ния Республики Беларусь

Такім чынам, А.Лукашэнка ўрачыста заявіў:

– у склад Цэнтральнай выбарчай камісіі будуць уведзеныя з правам дарадчага голасу прадстаўнікі палітычных партыяў, якія высунулі сваіх кандыдатаў;

– усе зарэгістраваныя кандыдаты, незалежна ад сваіх палітычных арыентацыяў, атрымаюць на роўных умовах бясплатны эфірны час на дзяржаўным тэлебачаньні для таго, каб выкласьці свае палітычныя плятформы;

– асабіста прэзыдэнт гарантуе захаваньне парыяду даверу ў часе падрыхтоўкі й правядзеньня выбараў, і ад імя кіраўніцтва Беларусі абавязуецца не пагаршаць умоваў дзейнасьці усіх грамадзкіх арганізацыяў, палітычных партыяў і групаў, свабодных прафсаюзаў і незалежных СМІ;

– пашырэньне функцыяў парлямэнту ёсьць неад'емнай часткай беларускіх грамадзкіх працэсаў, і гэта будзе адным з напрамкаў працы новага парлямэнту.

А цяпер разгледзім гэта ўсё ўважліва.

У Цэнтарвыбаркам, хутчэй за ўсё, могуць увайсьці прадстаўнікі толькі тых партыяў, якія лічыць апазыцыйнымі не выпадае. Напрыклад, прадстаўнікі ПКБ пад кіраўніцтвам Сяргея Калякіна. Яны хоць і патрапілі ў няміласьць, бо разышліся з “благовернымі” камуністамі Віктара Чыкіна, але трымаюцца тых жа асноваў адміністратыўнага сацыялізму, на якіх базуецца й сёньняшні рэжым.

Апазыцыя ж, як вядома, байкатуе выбары. (Іншая справа, што ў самой апазыцыі, якая гучна называе сябе аб'яднанаю, магчымы раскол з-за рашэньня шэрагу еўных прадстаўнікоў абірацца на дэпутатаў. Але гэта ўжо іншая тэма).

Вядома, што сутнасьць працы Цэнтарвыбаркаму такая, што істотна паўплываць на хаду й вынікі выбараў гэтая інстанцыя ня можа. Там толькі апрацоўваюць лічбы, што падаюцца з вобласьцяў. А як у рэгіёнах падлічваюць галасы – толькі Гаспадар ведае... І нават калі камісія вызначыць факты асобных парушэньняў, па вялікім рахунку гэта нічога ня зьменіць: будзе прызнана, што выбары адбыліся.

Што да эфірнага часу, то яго й сапраўды могуць даць усім кандыдатам. Але хто ўлічыць той эфірны час, на працягу якога паслужлівыя камэнтатары БТ стануць ганіць непатрэбных уладзе прэтэндэнтаў на мандаты й да нябёсаў прыўзносіць тых, хто лаяльны да ўлады? Бо ёсьць такі мэтад – калі пасьля выступу апазыцыянэра на яго выліваюць з экрану БТ заранёў прыгатаваныя памыі, і мэтад гэты спрацоўвае безадказна.

Наконт пэрыяду даверу можна прагназаваць наступнае. Рэжым сапраўды на нейкі час устрымаецца ад зусім адыёзных дзеяньняў у дачыненьні да апанэнтаў – напрыклад, калі іх “вразумляет” ОМОН з дапамогаю дубінак. Дарэчы, некаторыя дзеячы, набліжаныя да Лукашэнкі, даўно кажуць: ня трэба так брутальна, ёсьць жа нашмат больш тонкія тэхналёгіі!.. Зрэшты, не абавязкова штораз выдумляць такую супэрапэрацыю, як, напрыклад, з былым міліцыянтам Батурыным. Рэжым мае аграмадны вопыт цкаваньня нелюбімых асобаў і структураў праз выкарыстаньне абсалютна руцінных, бюракратычных спосабаў – ад зацягваньня выдачы пашпарту з штампам для выезду за мяжу да незьлічоных перарэгістрацыяў партыяў ды СМІ, падатковых зьдзекаў, папярэджаньняў Міністэрства юстыцыі ці Дзяржкамдруку...

Такім чынам, абавязацельства не пагаршаць умовы існаваньня апазыцыі выклікае сумную гіронію: куды ж яшчэ горш! А вось аб вызваленьні, скажам, палітычных вязьняў – гаворкі няма.

І нарэшце – аб магчымых межах пашырэньня функцыяў парлямэнту пры сёньняшнім прэзыдэнце. Як ён сам даў зразумець падрыхтаваным вышэйзгаданага пасланьня, нават амаль паабяцаў, што калі-небудзь парлямэнт атрымае права даваць згоду на прызначэньне амбасадараў. Што ж, гэта можна назваць нечуванай дагэтуль шчадротай у сфэры падзелу ўладных паўнамоцтваў!

Такім чынам, відавочная дэкаратыўнасьць “крупных перадвыбарчых ініцыятываў”. Відаць, і ў прэзыдэнцкім асяродзьдзі разумеюць, што Эўропа на гэта ня клюне. Таму гэтае пасланьне толькі рыхтуе глебу для прапагандысцкіх спэкуляцыяў пасьля таго, як Захад афіцыйна заявіць, што міжнародных назіральнікаў на выбарах ня будзе. Вось тады і пачнецца: маўляў, мы з адкрытай душою, а яны – з падвойнымі стандартамі!

Іншая справа, што пасланьне паказвае і боязь кіраўніка дзяржавы. Колькі не кажы, што выбары праводзяцца не для замежных дзядзек, а для свайго народу, аднак прывід новага й зноў нелігітымнага парлямэнту не дае супакоіцца... Прычым незадавальненьне можа выказаць нават Крэмль, які стаміўся слухаць папрокі за падтрымку аўтарытарнага беларускага рэжыму.

І зусім, відаць, дрэнна для ўлады, калі агульнасусьветнае (уключна з маскоўскім) незадавальненьне будзе перанесенае й на маючыя адбыцца прэзыдэнцкія выбары. Таму Лукашэнка і робіць свае манэўры. І згаданае пасланьне, хутчэй за ўсё, ня стане апошнім з іх.

***Аляксандар КЛАСКОЎСКІ, журналіст***



Фота IREX

# Для эўрапейскай лаяльнасьці няма ніякіх падставаў

***Прадстаўнікі беларускай аб'яднанай апазыцыі накіравалі адмысловы зварот да шэрагу міжнародных арганізацыяў і структураў з выкладаньнем падыходаў дэмакратычных сілаў Беларусі, у якім зазначаецца, што няма ніякіх падставаў накіроўваць назіральнікаў на выбары ў “Палату прадстаўнікоў”. Зварот накіраваны ў Парлямэнцкую асамблею АБСЭ, Парлямэнцкую асамблею Рады Эўропы, Эўрапарлямэнт, ЭўраЗьвяз, дзейнаму старшыні АБСЭ і дзяржаўнаму сакратару ЗША.***

30 жніўня ў Вене пачнецца міжнародная тэхнічная канфэрэнцыя ў справе сытуацыі ў Беларусі. Галоўнай яе тэмаю будзе пытаньне: пасылаць ці не пасылаць назіральнікаў на кастрычніцкія выбары ў Палату прадстаўнікоў. Канфэрэнцыю ладзіць АБСЭ з удзелам больш як 10 міжнародных арганізацыяў.

Прадстаўнікі як улады, гэтак і аб'яднанай апазыцыі актыўна рыхтуюцца да гэтай канфэрэнцыі. Некалькі тыдняў таму з адмысловымі лістамі да кіраўніцтва АБСЭ, ЭўраЗьвязу ды іншых міжнародных арганізацыяў зьвяртаўся А.Лукашэнка, які абяцаў палепшыць сытуацыю перад выбарамі. У гэты панядзелак аналягічныя лісты былі накіраваныя і ад імя аб'яднанай апазыцыі.

У гэтых зваротах ад імя Каардынацыйнае рады дэмакратычных сілаў даецца аналіз сытуацыі ў Беларусі, ацэнка нядаўнім палітычным ініцыятывам Лукашэнкі. Лісты падпісаў намесьнік старшыні Вярхоўнага Савету, лідэр Аб'яднанае Грамадзянскае партыі Анатоль Лябедзька. Вось што ён распавёў пра зьмест звароту:

– Мы робім спасылку на тыя міжнародныя акты, якія маюць дачыненьне да Беларусі, і якія зьяўляюцца прававой асновай для прыняцьця рашэньня аб накіраваньні (ці не) наглядальнікаў. Мы канстатуем, што яны ня выкананыя. Там згадваецца і Стамбульскі саміт, і Бухарэсцкая рэзалюцыя, і рэзалюцыя, якая была прынятая ў студзені Парлямэнцкай асамблеяй Рады Эўропы. Мы канстатуем самае галоўнае – што на сёньняшні дзень не выкананыя гэтыя чатыры ўмовы. Па-другое, адносіны да заяваў Лукашэнкі. Яны, па-сутнасьці, не вырашаюць пытаньні й носяць прапагандысцкі характар. Мы робім спасылку на тое, што аналягічныя абяцаньні ўжо былі зробленыя Лукашэнкам у 97-м годзе, калі ад яго імя ў эўрапейскія структуры быў накіраваны зварот, дзе ён браў на сябе пэўныя абяцаньні. Вось гэты дакумэнт прыкладзены – гэта як тая вартасьць вусных апошніх заяваў. Таму Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў робіць высноў, што няма падставаў – ні прававых, ні палітычных, ні маральных, каб накіроўваць наглядальнікаў у Беларусь.

А.Лябедзька паведаміў, што прадстаўнікі апазыцыі правядзяць цяпер шэраг сустрэчаў у Беларусі і за яе межамі, якія мусяць паўплываць на рашэньне Венскае тэхнічнае канфэрэнцыі, і што апазыцыя ўжо атрымала пэўную падтрымку.

Як зазначыў Анатоль Лябедзька, на Венскай канфэрэнцыі пакуль не прадугледжваецца прысутнасьць прадстаўнікоў беларускай апазыцыі. Будзе прысутнічаць беларускі амбасадар у Вене і, магчыма, хтосьці з “Палаты прадстаўнікоў” прыедзе ў складзе дэлегацыі МПА СНД.

Каб не гучалі толькі аргумэнты ад урадавага боку, падрыхтаваны праект звароту непасрэдна да ўдзельнікаў Венскай канфэрэнцыі ад імя Каардынацыйнае рады апазыцыйных партыяў.

***Валер КАЛІНОЎСКІ, Менск***

**P. S.** *Тым часам Анатоль Лябедзька быў учора госьцем Магілёва, дзе меўся правесьці адкрытую ў прамым і пераносным сэнсах сустрэчу з выбаршчыкамі. Падрабязнасьці яе “ТМ” падасьць у наступным нумары.*


Фота IREX

# На парозе сэнсацыі?

***Партыя камуністаў Беларуская (ня блытаць з КПБ – рэд.) можа адмовіцца ад удзелу ў парлямэнцкіх выбарах, калі ўмовы іх правядзеньня “значна пагоршацца”.***

Пра гэта 21 жніўня заявіў лідэр ПКБ Сяргей Калякін. Рашэньне аб удзеле ПКБ у выбарах было прынятае 19 жніўня на VI зьезьдзе партыі. Сярод прычынаў, якія могуць прымусіць камуністаў адмовіцца ад удзелу ў выбарчай кампаніі, Калякін назваў аказаньне “моцнага адміністрацыйнага ціску” на кандыдатаў ад партыі і “беспардоннае ўмяшаньне” улады ў дзейнасьць выбарчых камісіяў. Паводле ягоных словаў, падобнае рашэньне можа быць прынятае на другой сэсіі партыйнага зьезду, якую ў любы момант можа склікаць ягоны прэзыдыюм. Пакуль жа члены ПКБ маюць намер актыўна ўдзельнічаць ува ўсіх перадвыбарчых мерапрыемствах, а таксама арганізаваць сыстэму грамадзкага кантролю за ходой выбараў.

Як вядома, ПКБ вылучыла 75 кандыдатаў на дэпутаты: 43 – па гарадзкіх выбарчых акругах і 32 – па сельскіх. Насёньня гэта буйнейшае партыйнае прадстаўніцтва сярод усіх кандыдатаў. Сярод вылучаных – 9 дэпутатаў Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня.

“90% членаў выбарчых камісіяў знаёмыя з Выбарчым кодэксам у лепшым выпадку павярхоўна”, – заявіў Сяргей Калякін. Няведаньне выбарчага заканадаўства, сказаў лідэр ПКБ, ствараe дадатковыя канфліктныя сытуацыі паміж прэтэндэнтамі на дэпутацкі мандат і прадстаўнікамі ўлады. Некампэтэнтныя члены камісіяў вымушаныя за тлумачэньнямі палажэньняў Кодэкса зьвяртацца да курыруючых выбары чыноўнікаў “вэртыкалі”, што і дазваляе выканаўчай уладзе актыўна кантраляваць выбарчы працэс.

Цяжкасьці з прымяненьнем Выбарчага кодэксу абумоўленыя, на думку С.Калякіна, яшчэ і тым, што ён як юрыдычны дакумэнт складзены вельмі нязґрабна і нязручны ў карыстаньні. Да таго ж, кодэкс быў прыняты занадта позна, што не дало магчымасьці азнаёміцца зь ім ня толькі палітычным партыям, але і членам выбарчых камісіяў, не гаворачы ўжо пра шараговых грамадзянаў. Таксама, паводле Калякіна, на прадугледжаныя кодэксам 50 мінімальных заробкаў правесьці выбарчую кампанію немагчыма. Такім чынам, лічыць ён, сам гэты дакумэнт падштурхоўвае кандыдатаў на тое, каб парушыць закон.

***Паводле БЕЛАПАН***

